*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 1(438) 5 СТУДЗЕНЯ 2000 г.

# З КАЛЯДАМІ ЦЯБЕ, БЕЛАРУСКІ НАРОД !




## Божа, што калісь народы...

Божа, што калісь народы
На асобкі падзяліў
І хацеў, каб народ кожны
Мовай роднай гаварыў.

Узглянь жа на народ бяздольны
Беларускі, што к Табе
Голас ціхі, паднявольны,
У пакорнай шле мальбе.

Асвяці наш розум верай,
І надзею ў душу ўлі
Ды агонь любові шчырай
Ў сэрцах нашых запалі!

Дай, каб зернятка прабуды
Заляцела ў кожны кут
Беларусі, каб усюды
Узышло, і там і тут.

Каб рунела выплывала
Красавала, наліло
І, наспеўшы, ў ток не мала
Умалоту прынясло.

Памажы ж нам, Божа мілы
Прабудзіцца да жыцця
Удзялі парады, сілы,
Каб не збіліся з пуцця

Дык жыві-ж ты і красуйся
Наша Маці Беларусь,
Да краёў чужых раўнуйся
Йсці дзяцей к сабе прымусь

Хай бяруцца да работы,
Дом народны будаваць,
І багацца ад цноты,
Каб пасля ім рай дастаць.

Нас становіцца меней.

Памёр Уладзімір Верамейчык - заснавальнік Таварыства беларускай мовы на Гомельшчыне Памёр паэт, памёр пясняр Прыпяці.



## United World Colleges

### БЕЛАРУСКІ КАМІТЭТ КАЛЕДЖАЎ МІЖНАРОДНАЙ СУПОЛЬНАСІ

Абвяшчае конкурс на атрыманне бясплатных стыпендый у Міжнародных каледжах у Індыі, Нарвегіі, Італіі і, а таксама 50% стыпендыі ў Міжнародным Сельскагаспадарчым Каледжы ў Венесуэле.

У каледжах выкарыстоўваецца сістэма міжнарод-най перадуніверсітэцкай адукацыі IB (International Baccalaureate, Міжнародны Бакалаўрэат), разлічаная на два гады навучання. Дыплом IB дае права паступлення ў ВНУ большасці краін свету. Міжнародны Сельска-гаспадарчы Каледж у Венесуэле дае спецыяльнасць "менеджмент у галіне фермерства".

Галоўная мэта Каледжаў міжнароднай супольнасці – усталяванне ідэалаў міру, талерантнасці і су-працоўніцтва паміж моладдзю розных краін праз адукацыю. Кожны студэнт каледжа з'яўляецца прадстаўніком сваёй краіны і павінен як мага больш паведаміць пра яе сваім сябрам па вучобе больш чым са 150 краін. Таму, апроч выдатных акадэмічных ведаў, кандыдаты павінны выдатна ведаць беларускую мову, гісторыю і культуру Беларусі.

Узрост абітурыентаў – 16 – 17 год (16 год павінна споўніцца да 1 верасня 1999 г.). Узрост абітурыентаў Сельскагаспадарчага Каледжа ў Венесуэле – 18 –22 гады, пажадана, каб яны паходзілі з сельскай мясцовасці.

Конкурс адбывецца ў тры туры. На першы тур абітурыенты павінны даслаць да 1 лютага 2000 г. заяву з пазначэннем свайго адрасу, кантактнага тэлефона і нумара школы, даведка аб стане здароўя, ліст паспя-ховасці за мінулы і гэты навучальныя гады, звесткі аб удзеле ў вучнёўскіх алімпіядах, мастацкай самадзей-насці, спартыўных секцыях, копіі грамат, дыпломаў і інш.

Пераможцы будуць выкліканы на другі тур, які адбудзецца 28 сакавіка 2000 г., дзе ім будзе прапанавана напісаць эсэ на пэўную тэму.

Пераможцаў другога тура будзе чакаць трэці і апошні тур – сумоўе, якое адбудзецца 15 красавіка 2000 г. Каб паспяхова прайсці сумоўе, абітурыенты павінны прадэманстраваць добрыя веды англійскай і беларускай моў, беларускай і сусветнай гісторыі і культуры, мець пэўнае ўяўленне аб палітычным і экаамічным жыцці свету.

Камітэт шукае спонсараў для падтрымкі сваёй дзейнасці.

Адрас Беларускага камітэта Каледжаў міжна-роднай супольнасці:
Мінск 220050
Вул.Кірава 21, пак.6
Тэлефон для даведак: 226 10 73

## ЗАЯВА

### Сакратарыяту ГА ТБМ імя Францішка Скарыны (з прычыны апублікавання афіцыйных вынікаў перапісу насельніцтва 1999 г.)

Афіцыйныя вынікі перпапісу насельніцтва 1999 году, распаўсюджаныя ў сродках масавай інфармацыі, засведчылі, што 82% грамадзянаў Беларусі назвалі мову сваёй нацыянальнасці роднай, што на 4 пункты вышэй за паказчык перапісу 1989 году. Як вядома, перапіс меў месца ва ўмовах татальнае русіфікацыі, якая мэтанакіравана праводзіцца ў апошнія 5 гадоў. Сёння беларуская мова, фактычна, выцесненая з усіх сфераў ужытку. Афіцыйныя беларускія ды бальшыня рускамоўных СМІ, што маюць распаўсюд на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, усялякім чынам фармуюць грамадскую думку, што Беларусь ёсць часткаю Расеі, а яе жыхары – спрадвечна рускія.

Расейская мас-культура і псеўданавукоўцы запала-нілі нашую краіну. Ва ўладных структурах – бальшыня непісьменных чыноўнікаў, з дапамогай якіх адбываецца шырокамаштабная акцыя лінгвацыду. Яскравым сведчаннем гэтага з'яўляецца выступ з прычыны ратыфікацыі Саюзнае дамовы дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ Руслана Ігнацішчава, рускага з паходжання: " Наша радасць з нагоды аб'яднання рускіх павінна быць большай, чым радасць немцаў пасля падзення берлінскага муру... Калі я сказаў "аб'ядноўваюцца рускія", я не памыліўся. Пра гэта сведчыць гісторыя, у прыватнасці, тэксты Францыска Скарыны і надпісы на нямецкіх ды англійскіх мапах тысячагоддзя". Праўда, аўтар гэтае цытаты свядома ўтойвае, што за часамі Францішка Скарыны этнонім "рускі" не меў дачынення да жыхароў Маскоўскага княства, а распаўсюджваўся толькі на славянскія землі Вялікага княства Літоўскага.

Варта заўважыць, што ў часе перапісу былі адзначаныя шматлікія парушэнні беларускага заканадаўства. Менавіта дзякуючы намаганням грамадскіх арганізацыяў і найбольш актыўных грамадзянаў у перапісныя аркушы было ўнесена канкрэтнае пытанне "Назваць сваю родную мову", а таксама былі выключаныя пытанні эканамічнага характару, што тычыцца прыватнага жыцця грамадзянаў.

Неўзіраючы на вышэйпамянёныя хібы ды шэраг іншых недахопаў, вынікі перасягнулі ўсе нашыя магчымыя спадзяванні. Каля сямі мільёнаў грамадзянаў назвалі беларускую мову роднай, з іх – 3 млн. 683 тысячы карыстаюцца ёю ў паўсядзённым жыцці. Як бачым, курс на русіфікацыю, што вядзецца на ўсіх узроўнях уладных структураў, церпіць паразу. Ня маюць поспеху і шматлікія спробы паглынення Беларусі Расейскай Федэрацыяй. Таму ў часе святкавання Юбілейнага Году Хрысціянства мы звяртаемся да суайчыннікаў і надалей адстойваць свае права на самавызначэнне ды нацыянальную паўнавартасць. Грамадзяне Беларусі ўжо зрабілі свой выбар на карысць мовы карэннае нацыі, далейшая справа – за Дзяржавай. Хопіць ператвараць беларускі народ у манкрутаў! Патрабуем ад Дзяржавы як мага хутчэй забяспечыць беларускай мове рэальны статус дзяржаўнае, дзеля чаго найперш стварыць неабходныя ўмовы для выкарыстання беларускай мовы ўва ўсіх сферах жыцця на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь адпаведна вынікаў апошняга перапісу насельніцтва.

Сакратарыят ТБМ,
23 снежня 1999 г. Менск.

# Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны абвясціла 2000 год годам Францішка Багушэвіча

*Уладзімір Арлоў*

# Адкуль наш род

*(Працяг)*

## Васіль Вашчыла і Іван Карпач

Найбольш цяжка жылося крычаўцам, калі на іхняй зямлі гаспадарылі браты Гдаль і Шмуйла Іцкавічы. Іх слугі прымушалі людзей без меры працаваць на паншчыне, збіралі падаткі, але квіткоў пра аплату не выдавалі і патрабавалі плаціць грошы яшчэ раз. За тое, каб змалоць збожжа на млыне, іцкавічы бралі з сялянаў не кожны дзесяты мех, як вымагаў закон, а кожны сёмы.

Гдаль і Шмуйла раз'язджалі з узброенай вартаю па вёсках і збіралі з паднявольных крычаўцаў "падарункі" і "пачастункі".

Тых, хто не хацеў упакорыцца прыгнятальнікам, забівалі.

Навучыўшыся ў братоў Іцкавічаў, так дзейнічаў і наступны арандатар. Тады цярпенне ў крычаўцаў скончылася, і яны ўзяліся за косы, цапы і стрэльбы. Яны не хацелі цярпець здзекаў і плаціць непасільныя падаткі.

На чале паўстанцаў сталі Васіль Вашчыла і Іван Карпач.

Гэта былі пісьменныя і заможныя людзі, але волю любілі больш за багацце. Яны і раней дапамагалі сялянам, пісалі на арандатараў скаргі і па просьбе землякоў адвозілі іх Радзівілу ў Нясвіж. Вашчылу за гэта аднаго разу збілі на горкі яблык і кінулі ў турму, а другі раз пакаралі 150 бізунамі.

Глядзець на сонца праз астрожныя краты даводзілася і Карпачу.

Паўстанцы нападалі на дамы сваіх ворагаў, палілі судовыя і даўгавыя паперы, помсцілі за былыя крыўды. Улада ў старостве перайшла ў рукі Васіля Вашчылы і Івана Карпача, а таксама іхніх сяброў Васіля Ветра, Навума Буяна, Стэся Бочкі ды іншых смелых сялянскіх важакоў. Крычаўцы марылі самі зрабіцца гаспадарамі на сваёй зямлі.

## Няроўная барацьба

Князь Геранім Радзівіл накіраваў супроць крычаўцаў сваё добра ўзброенае і абвучанае войска – некалькі сотняў пяхоты і конніцы з гарматамі. Вестка пра гэта толькі павялічыла паўстанцкае войска.

У студзені 1744 года дзве тысячы паўстанцаў атакавалі крычаўскі замак. Яны мелі на ўзбраенні ў лепшым разе стрэльбы. Не маглі спрачацца з замкавай артылерыяй і паўстанцкія гарматы, што былі зробленыя з дубу і стралялі толькі адзін раз.

Штурм захлынуўся. Сялянскае войска страціла больш за сотню людзей забітымі і пяцьсот параненымі.

Нягледзячы на няўдачу, змагары не склалі зброю. Каля Крычава сабраліся ўжо чатыры тысячы ўзброеных людзей. Васіль Вашчыла вырашыў абкружыць замак і пачаць аблогу, каб прымусіць яго здацца. Але ўначы Радзівілавы жаўнеры непрыкметна наблізіліся да паўстанцкага табару.

На світанні пачалася бітва. Больш за дзве сотні паўстанцаў загінула, шмат трапіла ў палон, астатнія рассеяліся па лясах. Шэсцьдзесят палонных княжы палкоўнік Пястжэцкі адразу ж пакараў смерцю. Яму ўдалося злавіць і большасць сялянскіх правадыроў.

Неўзабаве з конным атрадам на трыста шабляў у Крычаў прыехаў сам князь Геранім.

Ён учыніў над паўстанцкімі важакамі суд. Шаснаццаць з іх засудзілі на смерць. Івана Карпача, Стэся Бочку, Васіля Ветра, Навума Буяна жывымі пасадзілі на кол. Іхнім таварышам кат накінуў на шыю пятлю або адсек галаву на пласе.

Сыну Стэся Бочкі, які вёў летапіс паўстання, Радзівіл распарадзіўся адрэзаць вушы і выпаліць на лбе шыбеніцу.

Васілю Вашчылу ўдалося ўцячы на Украіну, але і туды дацягнуліся рукі Радзівілавых слугаў, бо ў хуткім часе сялянскі правадыр памёр.

## Памяць пра змагароў

Паўстанне скончылася разгромам, аднак кроў змагароў пралілася не марна. Радзівіл больш не аддаваў Крычаўскую зямлю арандатарам і паменшыў падаткі. Просты люд атрымаў у сваім жыцці палёгку.

Памяць пра народных герояў жыве і сёння.

У Крычаве можна пачуць, як маці ласкава называюць дзяцей "вашчылкамі".

Вашчыла, Карпач і іх мужныя сябры сталі героямі кніг беларускіх пісьменнікаў.

Кінастудыя "Беларусьфільм" зняла пра падзеі тых далёкіх гадоў мастацкі фільм "Маці ўрагану". Асноваю гэтай захапляльнай гістарычнай кінастужкі стала драма, створаная выдатным беларускім пісьменнікам Уладзімірам Караткевічам, які напісаў шмат кніг пра падзеі нашай мінуўшчыны.

Хутка ў Крычаве з'явіцца помнік Васілю Вашчыла, які вёў землякоў на барацьбу за волю.

**Пытанні і заданні**

1. *Чаму так бедна жыў на Крычаўскай зямлі просты люд?*
2. *Што ты даведаўся пра князёў Радзівілаў? Якім быў гаспадар Крычаўскага староства князь Геранім?*
3. *Чаму крычаўцы паўсталі? Хто стаў на чале паўстання?*
4. *Раскажы, як паўстанцы змагаліся з прыгнятальнікамі.*
5. *Чым скончылася Крычаўскае паўстанне?*
6. *Як беларусы шануюць памяць паўстанцаў Васіля Вашчылы?*

## Захоп Беларусі Расеяй

***Доўгі час у нашых школьных падручніках і ў іншых кніжках па гісторыі гаварылася, нібыта беларусы на працягу стагоддзяў імкнуліся уз'яднацца з братнім расейскім народам і жыць з ім у адной дзяржаве.***

***Гэта няпраўда.***

***Беларусы паважалі суседні народ, дапамагалі тым, хто перасяляўся з Масковіі ў Вялікае княства Літоўскае, але жыць пад уладаю расейскіх цароў нашы продкі ніколі не хацелі. Яны вельмі добра памяталі, як забіваў і гнаў у няволю палачанаў цар Іван Жахлівы. Памяталі, як праз сто гадоў пасля гэтага расейскія ваяводы загадалі пераразаць усіх жыхароў беларускага горада Мсціслава. Народ не змог забыць, як царскія захопнікі ў розныя стагоддзі рабавалі і выпальвалі нашу зямлю, як прадавалі палонных у рабства туркам і персам. Назаўсёды засталося ў памяці беларусаў і тое, што салдаты цара Пятра І ўзарвалі галоўны храм нашай зямлі – полацкі Сафійскі сабор.***

## Парадкі ў суседняй краіне

Весткі, што даходзілі да Беларусі з суседняй дзяржавы, ніякай ахвоты "уз'яднанноўвацца" таксама не выклікалі. Дачка Пятра І імператрыца Лізавета загадала вырываць язык кожнаму, хто скажа пра яе непачцівае слова. А хваліць царыцу не было за што. Вакол самой Масквы лютавалі разбойнікі. У краіне не хапала солі, але вельмі часта простыя людзі не мелі чаго і пасаліць, бо і хлеба было, як кажуць, на адзінчык.

У расейскім войску панавала палачная дысцыпліна. За якую-небудзь дробную правіну салдат мог атрымаць дзве-тры тысячы ўдараў палкай і памерці на месцы.

Расейскія ўлады вялі сапраўдную вайну са стараверамі – людзьмі, якія хацелі захаваць у праваслаў-ных цэрквах старыя малітоўныя кнігі і абрады. Старавераў палілі, выкопвалі з магілаў і кідалі сабакам.

Памешчыкі ў Расеі мелі бязмежную ўладу над сваімі сялянамі. Сялянаў называлі рабамі. Іх і іхніх дзяцей было забаронена вучыць грамаце. Гаспадары мелі права ссылаць іх у Сібір, засякаць бізунамі да смерці, прадаваць, назаўсёды разлучаючы мужа з жонкаю, маці з дзецьмі. Пецярбургскія і маскоўскія газеты друкавалі аб'явы аб продажы, дзе людзі стаялі ў адным пераліку з пародзістымі сабакамі.

Ад царскага беззаконня, ад голаду і здзекаў у Вялікае княства Літоўскае штогод уцякалі тысячы людзей. Цэлымі вёскамі на беларускія землі перасяляліся старавееры. У сярэдзіне XVIII стагоддзя расейскі ўрад патрабаваў ад Рэчы Паспалітай вярнуць мільён уцекачоў.

## Чаму слабела наша дзяржава

Законы аб'яднанай Рэчы Паспалітай, куды, як мы памятаем, уваходзілі Польшча і Вялікае княства Літоўскае, давалі чалавеку значна больш правоў і свабоды, чым у Расеі. Аднак правы гэтыя мелі пераважна толькі паны - шляхта. Праўда, шляхты ў Вялікім княстве было шмат. На шэсць-сем сялянаў прыпадаў адзін шляхціц. Многія з такіх "паноў" адрозніваліся ад сялянаў толькі тым, што насілі шаблю і ганарыліся сваім гербам. Тым не менш гэта былі незалежныя людзі, якія вырашалі мясцовыя і агульнадзяржаўныя справы, засядаючы на соймах. Соймам называўся з'езд шляхецкіх дэпутатаў.

У нашай дзяржаве, як і раней, мірна жылі побач людзі рознай веры. Тут па-ранейшаму дзейнічаў Статут Вялікага княства Літоўскага, пра які ў нас ужо ішла падрабязная гаворка.

Але ладу і спакою не было і на нашай зямлі.

У сваіх уладаннях багатыя і знатныя людзі – магнаты трымалі ўласныя войскі і нярэдка вялі з ворагамі сапраўдныя войны, ад чаго пакутаваў найперш просты народ. На соймах абмяркоўвалі шмат карысных указаў, аднак зацвердзіць іх было надзвычай цяжка. Існавала недарэчнае правіла, згодна з якім сойм мог прыняць пастанову толькі тады, калі за яе прагаласуюць усе дэпутаты без выключэння. Які-небудзь падкуплены шляхціц мог крыкнуць са свайго месца: "Забараняю!", і патрэбны дзяржаве ўказ не праходзіў. Нярэдка на соймах разгараліся такія спрэчкі, што шляхціцы хапаліся за шаблі і маглі проста ў зале паседжанняў адправіць праціўніка на той свет.

Усё гэта падрывала магутнасць дзяржавы. Рэч Паспалітая слабела, а суседняя краіна набірала сілу і ўмешвалася ў яе справы.

## Падзел Рэчы Паспалітай

Ужо з часоў Пятра І расейскія войскі вельмі часта без усялякага дазволу ўрываліся на нашыя землі. З дапамогаю сваіх салдатаў цары садзілі на трон суседняй дзяржавы патрэбных ім людзей і рыхтаваліся да захопу Беларусі.

У 1772 годзе тры краіны – Расея, Аўстрыя і Прусія – дамовіліся паміж сабой падзяліць Рэч Паспалітую. Кожная з гэтых дзяржаў адарвала сабе частку чужой зямлі. Расея захапіла усходнюю Беларусь з гарадамі Віцебскам, Магілёвам, Воршай, Мсціславам, Гомелем... Новая мяжа, якая праходзіла па Дзвіне, разрэзала на дзве часткі Полацк. Сафійскі сабор апынуўся ў Расейскай імперыі, а старажытны Бельчыцкі манастыр, дзе некалі жылі полацкія князі, застаўся ў Рэчы Паспалітай.

Лепшыя людзі Вялікага княства Літоўскага і Польшчы спрабавалі выратаваць сваю дзяржаву ад гібелі. Тут было створанае першае ў свеце міністэрства народнай асветы – Адукацыйная камісія, што адчыняла школы і вучэльні. Сойм зацвердзіў першую ў Еўропе Канстытуцыю – асноўны закон краіны. Канстытуцыя забараняла магнацкія ўсобіцы і ўмацоўвала ў краіне парадак.

Але час быў страчаны. На абшары Рэчы Паспалітай зноў уварваліся расейскія войскі. У 1793 годзе Расея захапіла цэнтральную Беларусь разам з Менскам, а яшчэ праз два гады – астатнія землі былога Вялікага княства Літоўскага.

Так здзейснілася даўняя мара маскоўскіх уладароў. Наша Бацькаўшчына згубіла сваю самастойнасць і надоўга трапіла ў няволю.

*(Працяг у наступным нумары.)*



# Злы геній расейскай літаратуры і просты беларус

На леташні год выпалі юбілейныя даты нараджэння і смерці нашага земляка, літаратара, крытыка, журналіста, выдаўца Тэдэвуша (Фадзея) Булгарына (24.06.1789 – 01.09.1859). Са школьных урокаў літаратуры ён вядомы, як страшны рэакцыянер, які жыўцом душыў лепшых расейскіх пісьменнікаў. Але Булгарын і рэдактар газеты "Северная пчела" на працягу больш як 30 гадоў і пісьменнік, творы якога пры ягоным жыцці сталі ўключацца ў хрэстаматыі. Будучы беларусам, ураджэнцам маёнтка Пырашава (сучасны Уздзенскі раён), ён адчуваў усе крывыя павароты гісторыі сваёй Радзімы і адлюстраваў іх у сваіх "Успамінах". Першы ўрывак з гэтых успамінаў прысвечаны апісанню шляхецкага побыту ў маёнтку Русінавічы (сучасны Менскі раён, на р. Пціч) у ХУІІІ стагоддзі. Наступныя два ўрыўкі – гэта запісы ўспамінаў прабабкі пісьменніка, уладальніцы Русінавіч пані Уняхоўскай пра знаходжанне ў Русінавічах шведскага караля Карла XII у Паўночную вайну і пра гасцяванне ў Слуцку суперніка Карла XII у той вайне расейскага цара Пятра Першага. Напісаныя каларытна і па-мастацку, гэтыя фрагменты дазваляюць нам адчуць подых неспакойнага жыцця нашых продкаў у ХУІІІ стагоддзі.

Называючы сябе і шляхту палякамі, Ф. Булгарын, падобна А.Міцкевічу і іншым сваім землякам, ніколі не праводзіў роўнасці з этнічнымі палякамі.

Па віне рэдакцыі гэты матэрыял не быў надрукаваны ў 1999 годзе, то мы мусім зрабіць гэта цяпер.

***Пераклад з расейскай мовы, зроблены з часопіса "Неман", № 10-11 за 1995 г. Ігарам Гатальскім.***

***Тадэвуш (Фадзей) Булгарын***

## З "Успамінаў"

*1*

"Гэтая паважаная дама (пані Уняхоўская, гаспадыня Русінавіч. – заўв. перакл.) уяўляла сабой жывы гістарычны помнік найважнейшых падзей у краі на працягу цэлага стагоддзя і разам з тым захоўвала рэшткі старапольскіх звычаяў першай паловы ХУІІІ ст. Такія людзі рэдка сустракаюцца, і я павінен расказаць аб ёй.

Бабуля бацькі майго нарадзілася ў 1697 годзе, значыць, у гэты час (пра які піша Ф.Булгарын – 1797 год – калі яму было 8 гадоў. – заўв. перакл.) ёй было роўна сто гадоў. Скажу папярэдне, што яна памерла раптоўна ад перапуду ў 1812 г., гэта значыць у 115 гадоў ад нараджэння, калі партыя казакоў нечакана і з вэрхалам заехала ўначы ў яе двор. Яна была незвычайна высокага росту, трымалася заўсёды роўна і насіла шнуроўку да апошняй хвіліны, і ўсё сваё жыццё кіравала сама гаспадаркай, вяла перапіску, не насіла акуляраў. Усё жыццё сваё яна ніколі не была такой хворай, каб ляжаць у ложку. Маючы вельмі нядрэннае багацце і будучы ўдавой прэзідэнта гродскага (гэта значыць крымінальнага) суда, яна займала ганаровае месца у грамадстве, але на працягу амаль 40 гадоў толькі аднойчы, і то па важнай справе, выязджала са сваёй вёскі, ахвотна прымаючы гасцей і нават славячыся сардэчнасцю і гасціннасцю. У доме яе ўсё ўладкавана было на стары манер, і многія ездзілі да яе спецыяльна, каб паглядзець на старапольскія звычаі, ад якіх яна не адыходзіла ні на трошкі. Яна не змяняла ніколі крою свайго адзення і апраналася так, як апраналіся польскія дамы на пачатку ХУІІІ ст., гэта значыць у доўгую белую кофту (у звычайныя дні каніфасную, а ў святы калянкоравую) да каленяў, з фалборкамі і вузкімі рукавамі. Карсаж складаўся са шнуроўкі з чорнымі стужкамі крыжом, як у швейцарскім жаночым касцюме. Белая верхняя іспадніца да каленяў была абшытая фалборкамі, і між імі адной шырокай чорнай стужкай. На галаве насіла яна высокі каптур, перавязаны шырокай чорнай стужкай (як знак удавы). Чорныя чаравікікі былі са спражкамі і высокімі чырвонымі абцасамі. Яна заўсёды мела ў руках высокі кій з залатым набалдашнікам, на якім выразаная была выява Маці Божай. Пры сустрэчы з незнаёмым чалавекам ці пры якой-небудзь небяспецы яна жагналася і цалавала гэтую выяву. Позірк яе быў сур'ёзны, голас гучны і трохі грубы. За ёю, накшталт нарочнага, хадзіла заўсёды любімая яе служанка, з ключамі і з мяшком, у якім былі кавалкі цукру, пернікі, дробныя срэбныя грошы для раздачы дзецям слуг і сіротам, што выхоўваліся у яе доме. У яе быў адзін толькі сын (даўно ўжо памёр), які вядомы быў ва ўсёй правінцыі пад імем караля, таму што маці не называла яго інакш як мой кароль. Яна пеставала свайго караля да такой ступені, што ён быў нашмат шчаслівейшы за сапраўднага караля Станіслава Аўгуста, хоць і быў прадметам жартаў і ва ўсіх на вуснах у цэлай Літве. Маці абыходзілася з ім да старасці як з малалетнім. Прырода дала яму і розум, і добрае сэрца, і ўвогуле яго любілі ўсе, хто ведаў яго блізка. Маці не дала яму ніякага выхавання, баючыся навукамі пашкодзіць здароўю, і ён ледзьве адужаў грамату. Самавукам і па слыху ён граў на фартэпіяна, і нават вельмі прыемна, з пачуццямі і выразнасцю. Каралю слугавалі бесперапынна некалькі лакеяў і маладых служанапк, і павінны былі забаўляць яго. Для яго варылі штодня больш за 10 страў у маленькіх рандэльках і гаршчочках, каб дагадзіць ягонаму густу па нечаканаму жаданню і патрабаванню. Сама маці не ўжывала ніякіх лекаў, але сапсавала здароўе свайго караля, частуючы яго без патрэбы ўсялякімі медыкаментамі і трымаючы ці не ўвесь год у хаце, каб не падставіць прастудзе. Ва ўсіх справах жанчына разумная, яна ад залішняй і дурна спазнанай мацярынскай пяшчоты была прычынай і цялеснай нямогласці, і разумовай адсталасці адзінапга свайго сына, і зрабіла яго нават смешным. Калі кароль польскі быў у Нясвіжы ў гасцях у князя Караля Радзівіла, то пачуў так многа аповядаў пра гэтага караля, што для жарту загадаў даставіць да сябе, як ён казаў, свайго таварыша. Маці выслала свайго караля ў Нясвіж са сваяком, панам Гараінам (адпусціўшы яго ад сябе першы раз у жыцці), і апранула так пышна, што ён з'явіўся акурат як удзельны прынц. Польскі кароль прыняў яго вельмі ласкава, упэўнены, што смеху варты не ён, але смешная маці ягоная, і ён смешны толькі пры ёй. Ён нават не разгубіўся перад каралём. "Вітаю вас як роўнага!" – сказаў кароль пры першай сустрэчы. "Найяснейшы кароль, - адказваў Анюхоўскі, - па шляхецтве мы роўныя, і пасля смерці будзем роўныя, а цяпер я каралеўствую толькі ў сэрцы маёй маці!" Усе здзівіліся гэтаму адказу. Але я ўжо сказаў, што ён быў разумны ад прыроды, і розум яго быў толькі прыгнечаны цяжарам матчыных забабонаў і прадузятасцяў.(...)

... Яна (прабабка) заўзята любіла шытво па канве і ў тамбур і будучы ўжо няздольная працаваць сама, знаходзіла асалоду ў кіраўніцтве работай і мела ў доме сваім нешта як мануфактуру. Больш чым 20 прыгонных дзяўчат, з паўдзюжыны сіротаў і выхаванніц і некалькі незаможных шляхцяначак штодня займаліся шыццём дываноў і шпалер. Усе сцены і ўся мэбля ў яе доме абабітыя былі найцудоўнейшым шытвом, наўрад ці саступаўшы габеленавым шпалерам. Гэтых дываноў і шпалер яна ніколі не прадавала, але не толькі сваякам, а нават і значным людзям, не па іх сіле, а па яе выбару, і самаму польскаму каралю дасылала яна ў падарунак свае выбары, якія высока цаніліся знаўцамі. На выпісванне малюнкаў яна не шкадавала грошай. На вялікіх насценных дыванах малюнкі адлюстроўвалі бітвы, паляванне, фігуры былі натуральнага росту. На старой масіўнай мэблі, над дзвярыма, над вокнамі і нават на печах і на ўсім дамавым посудзе былі выразаны або намаляваны гербы нашай фаміліі. У партрэтнай зале была калекцыя партрэтаў нашых продкаў з ХУІ ст. Карацей, гэта быў у поўным сэнсе дом гістарычны, і калі б Літва мела свайго Вальтара Скота, то Русіновічы і вотчынніца гэтага маёнтка абавязкова гралі б ролі ў гістарычным рамане.

Звычаі ў Русіновічах таксама належалі да гісторыі. Расейскае "бью челом" і польскае "padam do nog" (г.зн.падаю да вашых ног) не ёсць пустыя выразы ці адно кампліменты. Усюды ў старыну бедны і слабы кідаўся да ног заможнага і моцнага і біў перад ім чалом у зямлю, як гэта цяпер робіцца на Усходзе і паміж сялянамі ў Расеі і Польшчы. І цяпер яшчэ, нават у багатых купцоў і дваран расейскіх, што прытрымліваюцца даўніны, маладая пара перад вянцом кідаецца да ног бацькоў і просіць благаславення. У Польшчы ў мінулым стагоддзі ўсе сваякі па сыходнай лініі мусілі кленчыць перад старэйшымі сваякамі і цалаваць ногі бацькоў. У маёй прабабкі, пані Анюхоўскай, гэты звычай вёўся да яе смерці. Калі мы прыехалі да яе, яна сядзела з вялікім фатэлі. Мае бацькі і сястра палі да яе ног, прымусіўшы і мяне зрабіць тое самае, і яна працягнула нагу, якую мы пацалавалі. Потым яна загадала нам узняцца і дала нам абедзьве рукі для цалавання, і ўжо пасля гэтай аперацыі прыўзнялася з фатэлю, пацалавала ўсіх нас у твар, блаславіла і загадала бацькам маім сесці, а мне і сёстрам стаць ля яе фатэлю. (...)

Мне вельмі хацелася пабегаць у садзе, але бацька мой сказаў, што тут нельга гуляць у садзе без асаблівага дазволу гаспадыні. Усе, хто быў пад дахам дома, мусілі выконваць волю гаспадыні, такі быў даўні звычай! Пі, еш, спі і гуляй не калі хочаш, а калі загадаюць! Кожны быў у сваім доме ўладаром, а ў чужым доме падданым.

Нас паклікалі да абеду, і бацькі мае зноў хацелі паўтарыць абрад кленчання, але прабабка не дазволіла гэтага, даволі было і аднаго разу! Выяўленне ўдзячнасці маіх бацькоў яна выслухала стрымана і адказвала толькі прыказкай, якая адпавядала рускай прымаўцы: "Свой сваіму паняволі сябра." Усе стравы стаялі на стале, па даўнім звычаі. Звычайныя стравы, для ўсіх, былі ў срэбных крытых сподках, а апроч таго, перад кожным госцем і перад сынам прабабкі, каралём, стаялі маленькія прыгожыя гаршчочкі і рандэлькі з адборнымі стравамі, на густ кожнага. Прабабка сама паказала нам месцы: па правы бок пасадзіла матулю, па левы свайго караля, за матуляй мяне і сястру, а каля свайго караля майго бацьку. Далей сядзелі паненкі (гэта значыць шляхцянкі, што служылі ў доме) і пажывальніцы, ці рэзідэнткі, камісар, аканом і некалькі бедных шляхцюкоў, якія прыехалі з павагі або па патрэбе. Перад мужчынамі стаялі куфлі з півам. Пры канцы абеду лакей паднёс бацьку майму келіх венгерскага віна. За сталом усе маўчалі і толькі адказвалі на пытанні гаспадыні...(...)

Пражыўшы некалькі дзён у Русінавічах, мы накіраваліся ў Менск. Перад ад'ездам паўтарылася кленчанне, цалаванне ў нагу і ў руку і блаславенні. Прабабка дала маёй маці скураны мяшэчак са ста чырвонцамі, завязаны і запячатаны, сястры падаравала 10 чырвонцаў, а мне адзін чырвонец на цукеркі. Бацьку майго яна толькі пагладзіла па галаве і сказала: "Жыві больш сціпла!" Калі мы селі ў брычку, бацька абмацаў пад нагамі мяшок; ён прыўзняў яго; мяшок быў з рублямі і з надпісам: "500 рублёў".

Мае бацькі не маглі надзівіцца шчодрасці прабабкі: яна вельмі рэдка абдорвала грашыма сваякоў, і падарунак яе ніколі не перавышаў ста злотых польскіх. Убачыўшы нас у няшчасным становішчы, яна адышла ад свайго правіла. Фамільны гонар перамог усе пачуцці і правілы. Яна нават не ўхваляла ціхмянасці бацькі майго і сказала, што трэба было пусціць кулю ў лоб дзёрзкаму, хто паважыўся непакоіць шляхціца ў ягоным доме! *(Пра той непакой ходзяць легеенды і некаторыя з іх я ведаю, бо пасля таго як Булгарын перастаў быць татарынам, а перад тым,як стаў расейцаим, то быў добрым беларускім, радзівілаўскім шляхціцам.)* Такія былі польскія жанчыны ў даўніну. Яны падпальвалі мужоў і сыноў сваіх на бітвы."

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 3. 01. 2000 г.
Наклад 3400 асобнікаў. Замова № 1
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 100 000 руб., 3 мес.- 300 000 руб.
***Кошт у розніцу:*** 25 000 руб.